# Ніва

**ТЫДНЁВІК ГП БГКТ**

№ 12 (891) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 25 САКАВІКА 1973 г. ЦАНА 60 гр.

**ДЗЯВОЧЫ КВАРТЭТ З ВЁСКІ ПЛЁСКІ (злева): Оля Амельянчук, Ліда Максімюк, Іра Паўлючук, Зося Балло, Мірэк Іванюк. Занялі яны першае месца ў катэгорыі вакальных калектываў на цэнтральным аглядзе «Беларуская песня — 73». Захапілі натуральнасцю, галасамі і высокай музычнай культурай. Выканалі «Мяцеліцу» і «Я ў БГКТ уступіла» — частушкі, друкаваныя некалі ў «Ніве».**

**Фота А. Карпюка.**





## БГКТ хроніка

■ Чарговае пасяджэнне прэзідыума праўлення беластоцкага павятовага аддзела, якое адбылося 6 сакавіка, разгледзела наступныя справы: 1) падрыхтоўку аддзела да агляду драматычных калектываў, 2) рэалізацыю плана працы і 3) зацвярджэнне новых членаў БГКТ, якія раней пазнаёміліся са статутам БГКТ і падпісалі дэкларацыі аб прыёме іх у рады Беларускага таварыства. Было іх 37 асоб. Зараз беластоцкі павятовы аддзел БГКТ налічвае 445 членаў, якія рэгулярна аплачваюць членскія складчыны. У пасяджэнні прэзідыу-складчыны. У пасяджэнні прэзідыума аддзела прыняў удзел старшыня ГП Мікалай Самоцік, які падкрэсліў добрую працу аддзела, яго старшыні Янкі Цялушэцкага і сакратара Гені Іванюк.

■ 6 сакавіка харавы калектыў БГКТ у Бельску Падляшскім арганізаваў урачыстую вечарыну, прысвечаную «хрысцінам» гэтага калектыву, а таксама міжнароднаму святу жанчын. Адкрыў вечарыну член прэзідыума праўлення аддзела Уладзімір Раеўскі. Прыпомніў ён гісторыю калектыву, якая распачалася ў 1964 годзе. Пасля выступіў мастацкі кіраўнік хору Сяргей Лукашук. Ахарактарызаваў ён працу калектыву ў апошніх гадах і тую сардэчную атмасферу, з якою хор спатыкаўся на Быдгашчыне падчас сваіх канцэртаў. Затым кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП Валянціна Філіпюк прадставіла прапановы адносна назвы бельскага хору БГКТ. Прысутныя пастанавілі калектыўна, каб хор прыняў назву «Васілёчкі». Старшыня ГП Мікалай Самоцік у сваёй прамове падкрэсліў вялікую ролю харавога калектыву, якую ён спаўняе ў беларускім і не толькі беларускім асяроддзі. Перадаў таксама сардэчныя пажаданні далейшага росту мастацкага ўзроўню і выказаў шмат цёплых слоў з нагоды свята жанчын (большасць удзельнікаў хору гэта жанчыны).

■ 7 сакавіка па ініцыятыве членаў БГКТ у вёсцы Баброўнікі, што ў Беластоцкім павеце, адбыўся ўрачысты вечар з нагоды 8 сакавіка.

■ 10 сакавіка ГП, гарадскі і павятовы аддзелы ў Беластоку арганізавалі акадэмію, прысвечаную міжнароднаму святу жанчын. З прамовай з гэтай нагоды выступіў сакратар ГП Янка Зенюк. У мастацкай частцы выступалі: фальклорная харавая група гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку і дуэт з Орлі Яўгенія Лапуха і Мікалая Балло. Пасля мастацкай часткі распачалася танцавальная вечарына, на якой дасканала гулялі члены і сімпатыкі БГКТ.

■ Ад 12 сакавіка на пасадзе арганізацыйнага кіраўніка ГП працуе Надзя Даніловіч — былы член харавога калектыву БГКТ у Гайнаўцы. Жадаем поспехаў у працы.

■ Гурток БГКТ у Плёсках налічвае 28 членаў і працуе пад кіраўніцтвам Людмілы Васілюк. Вядомы ён у вёсцы з арганізацыі добрых і карысных мерапрыемстваў. Вось і на 1973 год даволі цікавы план працы гуртка. Прывядзем тут хаця некаторыя мерапрыемствы. У студзені адбылася навагодняя вечарына, у лютым — вечар беларускай песні, у сакавіку — урачыстасць, прысвечаная міжнароднаму святу жанчын, а ў красавіку члены БГКТ абсадзяць дэкаратыўнымі дрэвамі кусок дарогі. На Першы май будзе падрыхтавана спецыяльная сценгазета і акадэмія, будзе адрамантавана дарога і аказана дапамога самотным старым людзям, у жніўні будуць арганізаваны народныя дажынкі, у верасні прадбачана спатканне з ветэранамі другой сусветнай вайны, у кастрычніку — урачысты вечар з нагоды гадавіны Войска Польскага, у лістападзе — акадэмія, прысвечаная Кастрычніцкай рэвалюцыі і з нагоды Дня настаўніка, у снежні вечарына — развітанне са старым годам. Гурток БГКТ супрацоўнічае з гуртком Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі. Карыстаецца ў вёсцы вялікім аўтарытэтам, бо толькі дзякуючы яго дзейнасці ў вёсцы Плёскі стала цікавей жыць. Асабліва іх эстрадная група расславіла ў павеце сваю родную вёску. Варта браць прыклад іншым гурткам БГКТ з плёскаўскай бэгэкатоўскай моладзі. (мх)

*Новыя вершы*

## Дваццаты век

Суровы і цвярозы век дваццаты,
Люблю цябе да скону
і кляну.
Вятрамі міжпланетнымі працяты,
Ты знаеш усяму сваю цану.

Музыкі пра любоў натхнёна
трынькаюць,
Малююць генералы галубоў.
А ты
глядзіш
з халоднаю хітрынкаю
І лічыш склады вадародных бомб.

Усё як ёсць табе відаць адразу —
І крой,
і здрада,
і падлог,
і гнеў.
Ад войнаў,
ад палітыкі
і джазу
Ты агрубеў
і рана ачарсцвеў.

І ўсё ж
ты хочаш да вякоў данесці,
Ад ненажэрнай смерці ўберагчы
Паэтаў выпакутваныя песні,
Касмічных трас цяжкія абручы.

Баішся,
каб ад атамных бяссонніц
Навек наш свет зялёны не зачах...
Таму і цягнем мы цябе да сонца
На потных і скрываўленых плячах.

*Генадзь Бураўкін*

НА НІВЕ БГКТ

Выраслі Плёскі на ніве БГКТ. Сталася гэта ўжо пару год таму. Але каб дакладна гаварыць пра плёскаўскія пачаткі, трэба гаварыць з тымі, хто з'яўляецца культурнай соллю сваёй вёскі, а пра якіх усюды гаворыцца: «расславілі вёску».

# Падарылі нам звонкую песню

Таму трэба на пачатку прызнацца, што хоць расказваць будзем пра ўсю вёску Плёскі, галоўнымі героямі рэпартажа будуць: Зося Балло, Іра Паўлючук, Ліда Максімюк і Оля Амельянчук — чацвёрка дзяўчат, якія складаюць квартэт, а таксама нефармальны, але сапраўдны кіраўнік гэтага квартэта — Людміла Васілюк і яшчэ адна важная і неабходная асоба — Мірэк Іванюк, самародны гарманіст, які акампаніруе дзяўчатам у іхніх песнях.

*

Буднішні дзень — першы дзень сакавіка. Нечакана пайшоў сапраўдны вялікі снег. Нават горбы на дарогах, і машына ў іх грэзне. Але двухкіламетровы кусок дарогі ад шашы да Плёскаў праязджаем шчасліва і стаем перад хатай нумар 33, дзе жыве старшыня гуртка БГКТ у Плёсках Людміла Васілюк. Калега Міхась, схапіўшы фотаапарат, прыцэльваецца да прыгожых аканіц дома — сапраўды майстэрская работа! На панадворку гаспадары майструюць пры матацыкле з прычэпай, а маладая гаспадыня Люся ўводзіць нас у гасцінны пакой. Кажа нам ісці па каляровых мяккіх саматканых хадніках — гэтых так модных цяпер вырабах вясковых народных мастакоў.

Дзявочы плёскаўскі, і слаўны ўжо, квартэт чакае ў камплекце. Дзяўчаты ўстаюць пры нашым паяўленні. А нас ад гэтага ахоплівае нясмеласць і хваляванне. Ідуць мінуты і гадзіны супольнай размовы. Дзяўчаты аж кіпяць натуральнай свабоднай ветлівасцю, ад прыроды дараванай ім на дарогу жыцця. Яны дочкі гэтай цёплай вёскі Плёскі, дзе ўсе людзі гасцінныя і шчырыя. Як цешыліся ўсе ў вёсцы з першага месца сваіх дзяўчат на аглядзе «Беларуская песня — 73»! Найстарэйшыя бабулі прыходзілі віншаваць іх. А сваю радасць дзяўчаты выражалі звонкай песняй. Усю дарогу дадому з агляду яны з радасці спявалі. Людзі ў вёсцы пачулі, з поля ідучы, спеў і гадалі: «Мабыць, нашы ўзнагароду дасталі, што такія радыя».

Радасць была і ў школах сярод сяброў. Іру Паўлючук віншавалі ў ліцэі імя Касцюшкі ў Бельску, Зосю Балло ў медыцынскім ліцэі, Олю Амельянюк у засадніча завадовай школе, а пра кіраўніка Люсю Васілюк гаварылі настаўнікі і вучні беларускага ліцэя на чале з самім дырэктарам.

Люся падала на стол каву і смачны сырнік. Адзін за адным панаходзілі ў хату людзі. Атмасфера стала сямейнай, радаснай, згоднай. Быў добры, багаты вечар. Усе дзяўчаты і Мірэк задаволены, смяюцца. Адна Люся найбольш маўчыць, адна Люся ўважна прыслу-

*(Працяг на стар. 3)*

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

 СВЕТ  БССР  ПОЛЬШЧА  ВАЯВОДСТВА

## ПАСЛЯ ВЫБАРАЎ У ФРАНЦЫІ

Вынікі прайшоўшых у Францыі выбараў у Нацыянальны сход, на агульную думку палітычных аглядальнікаў, сведчаць аб умацаванні ўплыву ў самых шырокіх масах левых сіл, у першую чаргу Французскай камуністычнай партыі.

Многія публіцысты адзначаюць, што існуючая выбарчая сістэма перашкаджае праяўленню рэальнага ўплыву палітычных партый у краіне. Нават крайне правая «Арор» прызнала, што «мажарытарная сістэма» галасавання «не вельмі справядлівая, таму што дае магчымасць партыям, якія набралі меншую колькасць галасоў, атрымаць перамогу над іншымі партыямі, за якія прагаласавала большая колькасць выбаршчыкаў».

Як вядома, камуністычная партыя правяла ў парламент 73 дэпутатаў; у сярэднім адзін дэпутат — камуніст быў выбраны 70.600 галасамі. У той жа час для выбрання аднаго дэпутата ад увазходзячай ва ўрадавую кааліцыю партыі «Саюз дэмакратаў у абарону рэспублікі» (ЮДР) было дастаткова 31.415 галасоў.

## У ФОНД САЛІДАРНАСЦІ

Дэмакратычная маладзёжная арганізацыя — Свабодная нямецкая моладзь Заходняга Берліна сабрала ў фонд салідарнасці Сусветнай федэрацыі дэмакратычнай моладзі больш чым 70 тысяч марак.

Гэтыя сродкі пойдуць на будаўніцтва дзіцячай бальніцы ў Ханоі.

## ЗА ПРЫЗНАННЕ КУБЫ

У кангрэсе ЗША ўзмацняюцца патрабаванні спыніць палітыку байкоту, якую праводзіць афіцыйны Вашынгтон у адносінах да Кубы. З заклікам да ўрада «старанна перагледзець» гэту палітыку звярнуўся ўплывовы сенатар Роберт Берд. Многія ў ЗША лічаць, указаў ён, што настаў час для прызнання Злучанымі Штатамі Кубы.

Берд адзначыў, што пачаты працэс разрадкі міжнароднай напружанасці, і ў прыватнасці нармалізацыі савецка-амерыканскіх адносін, «прывялі ўжо да буйных перамен у міжнародным супрацоўніцтве». З заканчэннем в'етнамскай вайны, сказаў Берд, у амерыканцаў з'явіліся падставы спадзявацца на мір і ўмацаванне дружалюбных суадносін з іншымі краінамі.

## АБ ПРАМОВЕ ЧЖОУ ЭНЬ-ЛАЯ

Карэспандэнт агенцтва Франс Прэс у Пекіне перадаў, што Чжоу Энь-лай у прамове ў сувязі з Міжнародным жаночым днём перад 200 «замежнымі экспертамі» і членамі іх сем'яў, аб якой стала вядома з добра інфармаваных колаў, выступіў з публічнымі абвінавачаннямі супраць Лінь Бяо.

Гэта прамова, указвае агенцтва, не была апублікавана ў кітайскім друку. Чжоу Энь-лай абвінаваціў Лінь Бяо ў тым, што ён, карыстаючыся барацьбой Мао Цзэ-дуна супраць Лю Шао-цы, завалодаў вялікай уладай. «Следства па справе зграі Лінь Бяо, Чэнь Бо-да і іх памагатых, — сказаў Чжоў Энь-лай, — яшчэ не закончана. «Справа № 541» адносна змовы Лінь Бяо будзе пасля яе заканчэння даведзена да ведама нашых замежных сяброў».

(ак)

## АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ

Газета «Звязда» ад 14 сакавіка падае, што працоўныя Беларускай ССР абавязаліся: перавыканаць народнагаспадарчы план па вытворчасці прадукцыі на 257 мільёнаў рублёў, у тым ліку тавараў народнага спажывання — больш чым на 140 мільёнаў рублёў; да канца года даць звыш плана 1,2 мільёна квадратных метраў тканін, 100 тысяч пар абутку, 300 тысяч адзінак трыкатажных вырабаў.

## СУБОТНІК

Калектыў Мінскага завода шасцерань абавязаўся 21 красавіка дружна выйсці на камуністычны суботнік. Такім чынам рабочыя гэтага завода падтрымалі ініцыятыву маскоўскіх аўтамабілебудаўнікоў завода імя Ліхачова.

## З ДУМКАЙ АБ ВЯСНЕ

Савет Міністраў СССР прыняў пастанову аб дадатковых мерах па падрыхтоўцы і правядзенню веснавых палявых работ у 1973 годзе. Яна знайшла шырокі водгук у БССР. Тут асабліва звяртаецца ўвага на той момант пастановы, дзе сказана, што накладаецца абавязак на Міністэрства трактарнага і сельскагаспадарчага машынабудавання і іншыя міністэрствы забяспечыць датэрміновы выраб і пастаўку сельскагаспадарчай тэхнікі і запасных частак да яе.

## СЯБРОЎСТВА І СУПРАЦОЎНІЦТВА

Калектывы Каўнаскага шаўковага камбіната імя П. Зібертаса і Віцебскага шаўковага камбіната дружаць даўно. Беларускія рабочыя перадалі каўнаўцам свой вопыт па паляпшэнню аддзелкі тканіны, навучылі іх рабоце на новых прамывачных агрэгатах. Каўнаўцы ў замен дапамаглі ткачыхам, майстрам і інжынерам з Віцебска дасканала авалодаць пнеўматычнымі ткацкімі станкамі. Беларускія і літоўскія тэкстыльшчыкі вырашылі прадоўжыць сацыялістычнае спаборніцтва.

## ПОМНІК МАРШАЛУ САКАЛОЎСКАМУ

Нядаўна на адной з цэнтральных вуліц горада Гродна быў адкрыты ва ўрачыстых абставінах помнік праслаўленаму савецкаму палкаводцу, Герою Савецкага Саюза, Маршалу Васілю Данілавічу Сакалоўскаму. Гродзенцычына лічыць яго сваім земляком.

## ПА СЦЭНАРЫЯХ А. ВЯЛЮГІНА

Анатоль Вялюгін з'яўляецца аўтарам сцэнарыяў наступных беларускіх фільмаў: «Савецкая Беларусь», «Я — крэпасць, вяду бой...», «Балада аб мужнасці і любві».

У Саюзе пісьменнікаў БССР адбылося абмеркаванне гэтых фільмаў. У спрэчках прынялі ўдзел лаўрэат Ленінскай прэміі народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка, Еўдакія Лось, Алесь Махнач, Аляксей Слесарэнка і іншыя. Асабліва высока ацанілі яны фільм «Балада аб мужнасці і любві».

## ПРА МАЛАДУЮ БЕЛАРУСКУЮ ПАЭЗІЮ

У Саюзе пісьменнікаў СССР адбылася гутарка пра першыя кніжкі беларускіх паэтаў. З дакладам аб маладой беларускай паэзіі выступіў крытык У. Гніламёдаў. У спрэчках прынялі ўдзел маскоўскія і беларускія паэты, перакладчыкі і крытыкі.

(вр)

## ВЕНГЕРСКІЯ ПРАВАДЫРЫ З ВІЗІТАМ У ПОЛЬШЧЫ

На запрашэнне I сакратара ЦК ПАРП Эдварда Герка і прэм'ера ПНР Пятра Ярашэвіча прыязджалі ў нашу краіну: I сакратар ЦК Венгерскай сацыялістычнай рабочай партыі Янаш Кадар і член Палітбюро ЦК ВСРП, старшыня Рэвалюцыйната рабоча-сялянскага ўрада Венгерскай Народнай Рэспублікі Енэ Фок.

На аэрадроме гасцей прывіталі: Эдвард Герэк, Пётр Ярашэвіч і іншыя члены Палітбюро і Сакратарыята ЦК. У той жа дзень у сядзібе ЦК у Варшаве пачаліся размовы нашых правадыроў з венгерскімі. На другі дзень пасля поўдня госці пазнаёміліся з Варшавай.

На заканчэнне сяброўскага візіту венгерскіх гасцей у нашай краіне было апублікавана супольнае камюніке. У ім падкрэсліваецца: неабходнасць далейшай спецыялізацыі і прамысловай каапераціі паміж нашымі краінамі згодна з праграмай XXV сесіі Савета эканамічнай узаемадапамогі; умацаванне сацыялістычнага адзінства і бяспекі ў Еўропе; салідарнасць з народамі паўднёва- ўсходняй Азіі; дзейнасць на карысць еднасці камуністычнага і рабочага руху. У час размоў правадыры абедзвюх краін паінфармавалі аб жыцці і сітуацыі ў сваіх краінах, аб дасягненнях і выніках у працы, аб рэалізацыі пастаноў — у нас VI з'езду ПАРП, у Венгрыі — X з'езду ВСРП.

## ВАЯВОДСКІЯ ПАРТЫЙНЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ

У далейшым праходзяць ваяводскія справаздачна-выбарныя канферэнцыі ПАРП. Першая была, як ведаем, у Катавіцах, дзе Эдвард Герэк сказаў, што ваяводскія канферэнцыі закончацца ў красавіку. Адбыліся ў мінулым тыдні чарговыя канферэнцыі: у Варшаве, Быдгашчы і Ольштыне. На кожнай канферэнцыі прысутнічае член Палітбюро ЦК нашай партыі.

Падкрэсліваем значэнне варшаўскай канферэнцыі — сталічнай канферэнцыі ў сувязі са значэннем гэтага горада як вялікага прамысловага, навуковага і культурнага цэнтра для ўсёй краіны. Тут скапілася вялікая частка рабочага класа (Варшава займае II месца ў прамысловай прадукцыі пасля Шлёнска), тут працуюць цэнтральныя дзяржаўныя ўстановы і навуковыя інстытуты, тут маем моцнае навуковае і культурнае асяроддзе.

На наступныя два гады варшаўская канферэнцыя накрэсліла план сваёй далейшай дзейнасці, развіцця сталічнай арганізацыі і яе ўдзелу ў агульнанародным жыцці. Заданні паставіліся з размахам.

У варшаўскай канферэнцыі прыняў удзел член Палітбюро ЦК ПАРП, прэм'ер Пётр Ярашэвіч.

I сакратаром варшаўскай сталічнай арганізацыі быў выбраны зноў Юзэф Кэмпа.

(вл)

## ДНІ ПОЛЬСКА-ЛІТОЎСКАЙ ДРУЖБЫ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

19 сакавіка пачаліся на Беласточчыне дні дружбы з Літоўскай савецкай сацыялістычнай рэспублікай. Цэлы тыдзень адбываюцца розныя мерапрыемствы, прысвечаныя папулярызацыі дасягненняў літоўскіх сяброў у іх культуры і гаспадаркі.

Дні польска-літоўскай дружбы пачаліся ўрачыстым адкрыццём у ТППР выстаўкі літоўскага плакату і ўрачыстым канцэртам у тэатры імя А. Вянгеркі, у якім прынялі ўдзел вядомыя літоўскія артысты.

Дамы культуры і іншыя культурна-асветныя ўстановы нашага ваяводства падрыхтавалі шмат цікавых мерапрыемстваў: выстаўкі літоўскага жывапісу і графікі, кароткаметражныя фільмы аб Літоўскай ССР, розныя вечарыны з адпаведнымі праграмамі і конкурсы на тэму Літвы. Многія мерапрыемствы адбываюцца з удзелам літоўскіх гасцей.

Беластачане набываюць літоўскія сувеніры ў магазіне падарункаў на вул. Ліповай і каштуюць літоўскую страву ў рэстаране «Каляровым» і кавярні «Кавенскай».

## АЎГУСТОЎСКАМУ КАНАЛУ — 150 ГОД

У гэтым годзе мы будзем адзначаць 150-годдзе Аўгустоўскага канала. Да чэрвеня гэтага года запланавана стварэць у Аўгустове музей Аўгустоўскага канала і ўмураваць памятную табліцу на чэсць будаўнікоў канала. Адбудуцца цікавыя навуковыя сесіі на тэму гісторыі канала і яго выкарыстання для турыстычных мэт. Будзе аб'яўлена таксама некалькі конкурсаў, у тым ліку літаратурны і фатаграфічны, а таксама арганізавана шмат спартыўных мерапрыемстваў. Выдавецтва МОН падрыхтоўвае другое, расшыранае выданне кніжкі «Аўгустоўскі канал — яго гісторыя і будучыня», а выдавецтва «Спорт і турызм» — альбом «Аўгустоўскі канал».

## НАВУКОВЫЯ ПРАЦЫ АБ БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

14 сакавіка адбылася ў Беластоку канцовая фаза конкурсу на найлепшыя доктарскія і магістэрскія працы аб Беласточчыне. Старшыня ВРН др З. Спрыха ўручыў узнагароды і дыпломы удзельнікам конкурсу. Першую ўзнагароду сярод прадстаўленых 76 прац атрымала доктарская праца Ганны Бенашэўскай аб перспектывах забеспячэння Беластока вадой і магістэрская праца Стэфана Трафімюка аб эканамічна-арганізацыйных праблемах агульнаадукацыйных школ у Бельскім павеце.

## ПЕРАМОГА ЭЛКА

Калектыў насеннай цэнтралі ў Элку заняў першае месца за 1971—1972 г.г. сярод 60-ці насенных цэнтраляў паўночных ваяводстваў.

## СЕМІНАР У БЕЛАВЕЖЫ

Адбываецца ў Белавежы агульнапольскі семінар каляровай фатаграфіі. У праграме чатырохдзённага семінара знаходзяцца рэфераты аб сучаснай тэхналогіі каляровай фатаграфіі. Беластоцкія фатографы-аматары выступаюць з індывідуальнай выстаўкай фатаграмаў Генрыка Рагазінскага, а таксама з калектыўнай выстаўкай, якая складаецца з прац нашых найбольш вядомых фатографаў.

(ач)




**Niedziela 25.III.**

7.30 Program dnia. 7.35 TV Kurs Rolniczy. 8.10 „Przypominamy, radzimy". 8.20 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 8.45 „Radar". 9.00 TELERANEK. 10.20 „Antena". 10.35 „Wiatraki i komputery" („Klub Sześciu Kontynentów". 11,15 „Nowiny muzycznej oficyny". 12.05 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 13.50 „W obiektywie". 14.20 „Przemiany". 14.50 Losowanie numerów Totolotka. 15.00 Dla dzieci: L. J. Kern — „Tajemnica nie ma końca" odc. VIII („Karampuk"). 15.30 „Wielka gra". 16.20 „W starym kinie" — „Co się stało z trzecią nowelą „Eroiki"? 17.05 „Między codziennością a gwiazdami". 17.40 Mała Scena Teatru Rozrywki: T. Bernard — „Incydent na Placu Pigalle". 18.15 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20,05 „Wielka miłość Balzaka" — film pol.-franc. odc. I — „Nadzieje i upokorzenia". 21.00 PKF. 21.10 Viva Maria" — program rozr. 21.40 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 26.III.**

12.45 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja Rolnictwa. 15.20 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 17.55 „Spacerkiem po kinach". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: R. Brandstaetter — „Upadek kamiennego domu". 21.05 Program publicystyczny. 21.35 „Jarmark na dzień 27 marca" — program rozr. z okazji Międzynarodowego Dnia Teatru. 22.15 Dziennik. 22.35 „Maski" K. Szymanowskiego. Gra Elżbieta Zając — fortepian.

**Wtorek 27.III.**

8.55 „Wielka miłość Balzaka" — film pol.-franc. cz. I — „Nadzieje i upokorzenia". 9.55 Dla szkół (kl. II lic.) Język polski — A. Fredro — „Śluby panieńskie". 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — G. B. Shaw — „Pigmalion" 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.10 Program rozrywkowy. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Targi o targi" — program publ. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Młodzi zakochani" — film fab. radz. 21.30 „Dokąd mogą pójść" („Profile kultury"). 21.55 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.20 „Studio przebojów" — program TV NRD. 23.05 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 23.40 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja Rolnictwa.

**Środa 28.III.**

9.25 „Młodzi zakochani" — film fab. radz. 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Stany skupienia ciał". 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Warszawska Cytadela". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt". 14.00 „Wybieramy zawód". 15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Gramy w sznurki". 17.10 Dla dzieci: J. Porazińska — „Gadające zwierciadło". 17.35 „Informacje, Towary, Propozycje". 17.55 „Przez Afrykę" — film dok. czechosł. (odc. IV). 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.50 Dobranoc. 19.00 Dziennik. 19.25 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej o Mistrzostwo Świata: Walia-Polska. W przerwie ok. 20.15 Wiadomości sportowe. 21.15 Studio 63: M. Żuławski — „Bilet" („Opowieści mojej żony"). 21.30 „Artyści, których podziwiamy" — Konstanty Kulka. 22.25 Dziennik.

**Czwartek 29.III.**

8.30 „Kolonia Lanfieri" — film fab. czechosł. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „200 lat temu" 10.25 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej o Mistrzostwo Świata: Walia-Polska — powtórzenie. 14.00 Matematyka w szkole: „Mnożenie i dzielenie liczb" cz. II. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 PKF. 17.55 Występy zespołów ludowych. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Raport z WSM" — rep. — odc. IV. 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Alfred Hitchcock przedstawia" — film fab. USA. 21.00 „Nowa gmina". 21.30 „Z olimpijskim pozdrowieniem". 22.25 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.55 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 23.30 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt.

**Piątek 30.III.**

10.00 „Alfred Hitchcock przedstawia" — film USA. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.20 i 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Rysunek techniczny. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.25 „Nie tylko dla pań". 17.45 „Wieczorne melodie" — program rozr. radz. 18.20 „Turystyka i wypoczynek". 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.50 „Dialogi historyczne". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Spotkanie z Ireną Jarocką" 20.40 Panorama Tygodnia. 21.20 Teatr TV: F. Knorre — „Kołki w płocie". 22.45 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Sobota 31.III.**

10.00 „Markiza Angelika" — film fab. franc. wł. — NRF.12.55 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 13.55 Program dnia. 14.00 Sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata: Polska — Czechosłowacja (Moskwa). W I przerwie ok. 14.30 Program I proponuje. W II przerwie ok. 15.20 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Budujemy dom" — turniej wiedzy o zawodach budowlanych. 17.40 „Podróż do Gdańska" — film pop. naukowy. 18.10 „Kwadrans — rep. film. 18.30 „Godzina Orfeusza". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Markiza Angelika" — film fab. franc.-wł.-NRF. 22.10 Dziennik. 22.30 Wiadomości sportowe i sprawozdanie z meczu hokejowego Polska-Czechosłowacja. 23.00 „Szukamy Przebojów Polskich Nagrań".




**Piątek, 23 marca**

14.30 Program dnia. 15.15 Film dokument. 16.10 Almanach TV. 16.40 Film fab. 17.15 Program estradowy. 18.15 Teatr miniatur. 19.00 Czas. 19.30 Hokej. Szwecja-ZSRR.

**Sobota, 24 marca**

7.00 Program dnia. 7.30 Koncert. 8.15 Film dokument. 9.15 Przegląd międzynarodowy. 9.30 Mozaika muzyczna. 10.45 Film fab. 12.30 Spotkania muzyczne. 14.30 Filmy animowane. 16.10 Koncert. 16.50 Dla dzieci. 17.30 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Koncert. 20.50 Hokej. Czechosłowacja — ZSRR.

**Niedziela, 25 marca**

7.00 Program dnia. 8.00 Dla żołnierzy. 8.30 Kiosk muzyczny. 9.00 Spektakl teatralny. 13.45 Program muzyczny. 15.00 Klub filmowy. 16.50 Film animowany. 17.45 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Program sportowy.

 

## ТАК БЫВАЕ...




Вось яна, «нячыстая сіла», стаіць у паўлітрах і чацвяртушках на полках у крамах. Праўда, дарагаватая яна. Многім людзям на паўлітра трэба дзень працаваць. Але грош цана была б хрысцінам, вяселлям, розным сямейным і несямейным урачыстасцям, калі б не было чаго выпіць. Бо аб рознага роду прыёмах добра гавораць тады, калі не толькі хапае добрай закускі, але асноўнае, калі ёсць удосталь гарэлкі. Яна так увайшла ў наш быт, урасла ў традыцыю, што сталася галоўным элементам усіх важнейшых момантаў у нашым жыцці. Няма такой сілы, якая б магла адвучыць людзей ад гарэлкі. Ніякія доказы аб шкоднасці алкаголю для арганізму чалавека, мусіць, не паўстрымаюць ад выпівак.

Але справа ў тым, каб гарэлку піць у меру, каб чалавек сябе кантраляваў і ведаў, калі адставіць лішнюю чарку і не паддацца прынукам. Бо заўсёды лепш не дапіць, як перапіць. Заўсёды лепш выпіць на адну чарку менш, чым на адну чарку больш. Гарэлка прадукуецца для людзей. І трэба быць чалавекам падчас яе спажывання, бо лішняя цяга да гарэлкі можа перайсці ў хранічны алкагалізм, які цалкам змяняе ўвесь псіхічны воблік чалавека. І калі чалавека пачне маніць гэтая «нячыстая сіла», калі ён без яе не зможа жыць, тады ўжо бяда, тады ўжо сям'я, працоўны калектыў, грамадства перастаюць для яго існаваць. Усе яго думкі накіраваны толькі да аднаго — да чаркі. Такія людзі калечаць сваё жыццё і жыццё сям'і. Яны схільны да розных злачынстваў. І толькі таму, што ў пару не было каму ўстрымаць ад лішніх выпівак іх, людзей слабахарактарных, людзей бесталковых.

Калі хто пацікавіцца лёсам п'яніц, то заўважыць, што ўсе яны пераважна былі добрымі, здольнымі людзьмі, але гарэлка іх знішчыла, у многіх выпадках давяла да трагедыі, або нават да заўчаснага і неразумнага канца. Паслужымся прыкладамі з нядаўніх трагічных выпадкаў у Клейніках, што ў Гайнаўскім павеце. Малады нежанаты чалавек Васіль Лабузінскі пачаў ад кілішка. Пасля ўсё больш і часцей выпіваў, а пазней матка не магла ўжо яго адхіліць ад надмернага п'янства. Васю вабіла гарэлка, быццам нейкая «нячыстая сіла». Калі напіваўся, пачынаў думаць аб самагубстве. Першы раз, калі ён уваліўся ў калодзеж, яго выратавалі і затойвалі гэты факт. Але манія самагубства праследавала яго далей. Хадзіла за ім, быццам цень. І ўрэшце павесіўся. Яго пахавалі... Справілі памінкі, на якіх «бутэлькавыя» сябры Рыгор Сільвеструк і Мікалай Карпінскі, выпіўшы шмат гарэлкі, у гонар смерці свайго сябра, пайшлі да крамы на піва. Паміж імі выбухла сварка, і здаравяка Рыгор Сільвеструк ударыў слабога Мікалая Карпінскага, а той ляснуўся аб кравэнжнік маставой. І вось другая ахвяра алкагалізму. Была яна пахавана таксама з усімі гарэлачнымі почасцямі.

Двойчы займалася гайнаўская пракуратура справай смерці Мікалая Карпінскага. Рыгор Сільвеструк піў гарэлку і аднойчы пры гэтай самай краме заспорыў ён (зразумела, з неадказнымі людзьмі) на 500 зл. што без аддыху вып'е літр гарэлкі. І мала што не выпіў. Але зваліўся з ног. Прыцягнулі яго дахаты. Палажылі на лаву, з якой ён зваліўся і хутка памёр. І ўжо не паспеў адказваць на пытанні пракуратуры (меў ён павестку) аб тым, як ён прычыніўся да смерці Мікалая Карпінскага. У той жа дзень, калі гарэлка выканчвала Рыгора Сільвеструка, непадалёк ад Клейнік рабочыя памаглі памерці маладому хлапцу, які, як і Рыгор Сільвеструк, заспорыў з імі, што вып'е літр гарэлкі на працягу 10 мінут. І ён не выпіў. Выклікалі хуткую дапамогу. Праязджала яна праз Клейнікі, затрымалі яе там, яна ратавала таксама і Рыгора Сільвеструка. Але было ўжо запозна...

Значыць, гарэлка ў руках неразважных людзей з'яўляецца смяротнай «нячыстай сілай».

*Міхась Хмялеўскі.*

## ФАЛЬКЛОР

### ХРЫСЦІННАЯ

*Moderato*










*Эй, кум да кумы заліцаўся —*  
*Канапелькі сеяць абяцаўся.*  
*Ён сеяў, сеяў, высіваючы, сказаў:*  
*— Ты кума, ты душа, за ўсе кумы хараша.*  
*Эй, кум да кумы заліцаўся —*  
*Канапелькі вырваць абяцаўся.*  
*Ён рваў, вырываў, вырываючы, сказаў:*  
*— Ты кума, ты душа, ты кругом хараша.*  
*Эй, кум да кумы заліцаўся —*  
*Канапелькі церці абяцаўся.*  
*Ён цёр, выціраў, выціраючы, сказаў:*  
*— Ты кума, ты душа, за ўсе кумы хараша.*  
*Эй, кум да кумы заліцаўся —*  
*На сарочку набраць абяцаўся.*  
*Ён браў, выбіраў, выбіраючы, сказаў:*  
*— Ты кума, ты душа, за ўсе кумы хараша.*  
*Эй, кум да кумы заліцаўся —*  
*І сарочку шыць абяцаўся —*  
*Ён шыў, вышываў, вышываючы, сказаў:*  
*— Ты кума, ты душа, за ўсе кумы хараша.*  
*Эй, кум да кумы заліцаўся —*  
*І сарочку надзець абяцаўся.*  
*Ён клаў, накладаў, надзяваючы, сказаў:*  
*— Ах, ах кума, душа, ты кругом хараша!*

Ад Аляксандры Грыцук, 1923 года нараджэння, вёска Калодна, Беластоцкага павету, запісаў 24 студзеня 1973 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіў Эдуард Гойлік.

## ЛАВІ СВІННЮ ЗА ВУШЫ!

*(фота-фельетон)*

Свінячы піск здалёк абвясціў нам, што мы набліжаемся да скупачнага пункту ў Гарадку.

Што там цікавага?

— Нічога, — адказвае селянін, Тодар Госцік з Меляшкоў (здымак 1), гаспадар на 2,5 гектарах зямлі, які ў мінулым годзе прадаў дзяржаве пяць кормнікаў, а на гэты год запланаваў прадаць чатыры.

— Што ж тут можа быць цікавага? — дадае ён. — Адна буда, вага і невялічкі майдан. Добра вось, што ні дажджу, ні снегу, а то і схавацца няма дзе.

— Эх, Госцік, — крычаць гаспадары, што чакаюць сваёй чаргі, — не балбачы, здавай сваіх свінак!

Гаспадар бярэ каня за вузду і падганяе воз пад рампу. А тут нечаканасць... Паршук, замест пакорна ісці на вагу, скок у бок, вядома ж — свіння (!), і ўжо на прасторным скупачным пляцы, дзе не так проста злавіць яго і заставіць, каб вярнуўся назад.

Пакуль прадаўжаецца бегатня, за недысцыплінаванай свіннёй, пад рампу пад'язджае наступны гаспадар (здымак 2).




Аднак тут зноў іншая бяда. Свінка зарылася носам у падарожную скрынку і нізашто ў свеце не хоча вылезці адтуль, як бы прадчувала, куды вядзе яе гэтая апошняя дарога.

— А ты яе за вушы цягні! — падказвае Іван Рагач з Залукаў (здымак 3), які ў мінулым годзе здаў 7 кормнікаў, дык і вопыт у яго багаты.




— Вазьмі і пацягні, — адказвае заклапочаны гаспадар, — калі гэтая свіння адвярнулася да мяне задам і толькі хвосцік паказвае!

Урэшце свінка трапіла на вагу, дзе яе паяўлення чакаў ваговы Ян Пюрэцкі (здымак 4).




Калі ўжо ўсе гаспадары былі абслужаны, ваговы, класіфікатар і яшчэ нейкі рабочы супольнымі сіламі, ды пры дапамозе гумовых палак загналі свінак у самаход (здымак 5), які даставіў іх на мясны камбінат у Беластоку.




*М. Нурэцкі*  
*фота аўтара*



 

© PDF: Kamunikat.org 2023

## Этнаграфічнае аканца



*Жаночыя камплекты з чэпцамі і мужчынская сарочка. Гайнаўшчына. (Этнаграфічны музей у Торуні).*

# НОВЫЯ ВЕСТКІ АБ БЕЛАРУСКІМ ДРУКАРЫ СПІРЫДОНЕ СОБАЛЮ

*(Працяг са стар. 3)*

скім друкаром В. Ф. Бурцавым, які, як кажуць дакументы маскоўскіх архіваў, купіў у беларускага друкара «формы, в чом льют книжные печатные слова», а таксама хацеў набыць «формы бумажные». Сувязь магілёўца з многімі гарадамі, у тым ліку з Варшавай, Кіевам і Масквой, сведчаць аб яго шырокай гандлёвай і культурнай дзейнасці. Ёю займаўся таксама яго бацька, магілёўскі бурмістр Багдан Ігнатавіч Собаль, вядомы сваёй дзейнасцю, накіраванай супроць уезду ў 1618 годзе ў горад Іасафата Кунцэвіча. Як сведчаць новыя гістарычныя крыніцы, бацька Спірыдона Собаля трымаў на рынку Магілёва «полторы крамы», якія друкар прадаў у 1636 г. Іншыя запісы гавораць аб даўгах розным асобам. Самай цікавай, аднак, крыніцай з'яўляецца завяшчанне беларускага друкара, складзенае 3 лютага (старога стылю) 1645 г. у Магілёве. З яго мы даведваемся аб найбольш цікавых і вельмі істотных падрабязнасцях яго біяграфіі.

Матка і бабка С. Собаля паходзілі з Магілёва, дзе мелі сваю нерухомую маёмасць. Трэба без усякага сумнення лічыць, што бацька Собаля таксама паходзіў з Магілёва. У 80-х г.г. XVII ст. у магілёўскіх магістрацкіх кнігах успамінаюцца прозвішчы Собаляў: Філіпа Собаля, «райцы могилевского» і іншых. У Спірыдона былі брат Сямён, сястра, а таксама чатыры сыны: старэйшыя — Яўціхій і Цімафей і малодшыя (у 1645 г. яшчэ непаўналетнія) — Іван і Ляонцій. Двум апошнім друкар завяшчаў «дом с пляцом... на горе Илинской», чатыры валокі, дзве сенажаці над Дняпром і іншую нерухомую маёмасць, а таксама па 600 не надрукаваных да канца «Апосталаў». Старэйшаму сыну Яўціхію, які з'яўляўся каралеўскім пісарам і слугой кароннага канцлера Е. Асалінскага, ён пакінуў даволі вялікую суму грошай — 1200 польскіх злотых.

Самае каштоўнае ў духоўнай спадчыне Собаля — гэта ўпамінанне аб поўным тыражы 1200 штук кніжкі «Апостал», 44 аркушы якой былі ім надрукаваны і знаходзіліся як задатак у сыноў сястры друкара — Яўхіма і Матвея Хадаровічаў. Трэба меркаваць, што было гэта вядомае сёння выданне 1638 года (ці яго другі тыраж), якое, як выходзіць з вышэй сказанага, было пачата С. Собалем у Магілёве і закончана пазней, ужо пасля смерці друкара.

С. Собаль памёр у 1645 годзе. У канцы свайго жыцця ён пастрыгся ў манахі Кіева-Пячэрскага манастыра, атрымаўшы пры гэтым імя Сільвестр.

Запісы ў судовых кнігах львоўскіх архіваў гавораць нам аб яго сувязях таксама з гарадамі Камянец-Падольскі, Львовам і Сокалем (на поўнач ад Львова). На падставе іх прыходзім да вываду, што хутка пасля лютага 1645 года Спірыдонам Собалем было складзена другое завяшчанне (або дапаўненне да першага), на моцы якога сокальскай цэркві і брацтву св. Мікалая былі завешчаны некаторыя рэчы друкара (у «магілёўскім» завяшчанні нічога падобнага не ўпамінаецца). Сярод іх знаходзіліся: 14 кніг, дзве гравіраваныя пласцінкі і два жалезныя валікі. Усё гэта затрымаў львоўскі духоўны Сямён Барановіч, але па патрабаванню прадстаўнікоў г. Сокаля вымушаны быў усё гэта вярнуць. Другое завяшчанне было занесена ў кнігу камянецкага гарадскога суда 7 жніўня 1645 года (кніга да сёння не захавалася).

У сувязі з вышэй сказаным неабходна карэнным чынам змяніць пункт гледжання А. С. Зярновай, якая прыпісвала Собалю надрукаванне «Букваря языка славенска» — кнігі, якая ўбачыла свет у друкарні Магілёўскага брацтва ў 1649 годзе. Гэта кніга была знойдзена ў Упсалі ў Каралеўскай бібліятэцы і апісана англійскімі вучонымі Дж. Барнікотам і Дж. Сімансам. Як адзначыў Дж. Сіманс, выявілася поўнае супадзенне гэтага выдання з выданнем буквара 1636 г. На падставе гэтага А. С. Зярнова прыйшла да вываду, што буквар 1636 г. надрукаваў Собаль. Цяпер ёсць падставы да сцвярджэння, што буквар 1649 г. надрукаваў яго памочнік, да якога перайшла частка друкарскага абсталявання беларускага друкара.

Такім чынам, невядомыя да гэтага часу крыніцы істотна дапаўняюць і часткова змяняюць нашы погляды на асобу беларускага друкара С. Собаля, дазваляюць адзначыць *яго* шырокія сувязі і разам з тым паставіць рад пытанняў на будучыню. Адно з іх — невысвеленыя адносіны Собаля да Сокальскага брацтва, а другое — пытанне аб другім завяшчанні друкара. Але пры вядомых на сёння крыніцах нельга пакуль што даць на ўсё гэта адказ.

*Эдвард Ружыцкі*

## Куток практычных ведаў




### СМАЧНЫЯ ДЭСЕРТЫ

#### ЛІМОННЫ КРЭМ

На 4 яечкі трэба ўзяць 1 лімон, 2 чайныя лыжачкі змеленага жэлаціна, 10 чайных лыжачак цукру.

Жэлацін намачыць у трох лыжачках халоднай кіпячонай вады. Калі ён набракне вадою, закіпяціць. Жаўткі расцерці з цукрам. З лімона выціснуць сок і дадаць яго да жаўткоў. Бялкі збіць на пену, да жаўткоў дадаць жэлацін, а калі маса стане гусцейшай, спалучыць яе з пенай і астудзіць. Крэм прыбраць джэмам з вішань або варэннем з вішань ці трускалак.

#### ВАНІЛЬНЫ КРЭМ

На гэты крэм бярэм чатыры жаўткі, 2 бялкі, 8 чайных лыжачак цукру, ванільны цукар, паўшклянкі салодкай смятанкі, 3 лыжачкі жэлаціна. Жэлацін намачыць у трох лыжках кіпячонай астуджанай вады, а калі набракне — закіпяціць. Жаўткі расцерці з цукрам, смятанку і бялкі ўзбіць на пену. Жэлацін змяшаць з жаўткамі, а калі маса пачне гусцець, асцярожна, але хутка спалучыць з пенай і збітай смятанкай. Крэм астудзіць. Падаваць прыбраны долькамі апельсінаў ці ягадамі з варэння.

#### МУС З КІСЛАЙ СМЯТАНЫ

На 2 шклянкі густой смятаны ўзяць 2 чайныя лыжачкі жэлаціна, 8 лыжачак цукру, 1 лыжку апельсіннай скуркі (смажанай у цукры) або пяць дэкаў разынак.

Жэлацін намачыць у трох лыжках кіпячонай, астуджанай вады, а калі набракне, закіпяціць. Смятану збіць венічкам на пену. Канчаючы збіваць, дадаць цукар і жэлацін, збіваць, пакуль маса не пачне гусцець. Вымяшаць мус з дробна нарэзанай лімоннай скуркай або разынкамі, выложыць у сподачкі для кампоту і паставіць, каб мус астыў. Падаючы, прыбраць долькамі апельсінаў або разынкамі.

#### МУС З МАННАЙ КАШЫ

На 3 шклянкі малака ўзяць 3 лыжкі маннай кашы, 3 лыжкі цукру, фруктовы сок, ванілін.

2 шклянкі малака закіпяціць з ванілінам. У гарачае малако ўліць манную кашу, размешаную з шклянкай халоднага малака. Дадаць цукар. Зняўшы з агню, збіць кашу венічкам, пакуль яна не астыне. Вылажыць кашу ў сподкі для кампоту, астудзіць. Мус падаваць з фруктовым сокам.

#### КАРМЕЛЕВАЕ МАЛАЧКО

На паўтары шклянкі малака ўзяць 2 яечкі, 2 лыжкі цукру, 1 лыжку кармелю, ванільны цукар.

Яечкі размяшаць з цукрам, малаком і кармелем. Змазаць маслам 4—5 кубачкаў у сярэдзіне, напоўніць іх кіпячоным малаком. Кубачкі ўставіць у посуд з гарачай вадой, падаграваць да таго моманту, пакуль маса не згусцее, выняць іх з вады і астудзіць масу, выложыць яе на талерачкі, паліць фруктовым сокам ці прыбраць джэмам.

*Гаспадыня*




**Праз дзве гадзіны Вайтхазе пабудзіў** Альтэнкірха. Пасля яго па чарзе вартавалі Будэр і Франке. Мартынава не будзілі — потым зрабілі выгляд, што проста забыліся пра яго.

Удзень Франке з Альтэнкірхам абследавалі навакольны лес і натрапілі на густы сасоннік — месца больш бяспечнае, чым тое, дзе яны зрабілі прывал. Вельмі ўзрадаваліся, калі набрылі на ручай з чыстай, празрыстай вадой, але адразу іх кінула ў жах, калі яны ўбачылі спарахнелы труп нямецкага салдата з выедзеным, мабыць, лісіцамі тварам. Калі яны падышлі бліжэй, угору ўзнялася чорная хмара мух, патыхнула страшэнным смуродам. Яны не адважыліся шукаць салдацкую кніжку ці апазнавальны знак — закідалі цела ламаччам і каменнем, прысыпалі зямлёй. Назад пабрылі панурыя, прыцішаныя.

Іх неадчэпна праследавала гэта жудасная карціна. Альтэнкірх стараўся падбадзёрыць Франке, а галоўнае — самога сябе. Гаварыў, што труп — гэта ўсяго толькі неадчувальная плоць, а не чалавек; што вайна аднолькава патрабуе ахвяр ад тых, каму суджана пакутаваць, як і ад тых, каму даводзіцца бачыць чужыя пакуты. Магчыма, салдат гэты памёр лёгкай смерцю, не адчуўшы нават болю, на зайздрасць тым, хто памірае ў муках. Быць немцам — значыць прыняць пакуты за Фатэрлянд.

— Кіньце гаварыць на гэту тэму, — нарэшце, абарваў яго Франке, і Альтэнкірх ужо больш не гаварыў пра забітага.

Пад вечар яны выйшлі на ўзлесак і ўбачылі поле і селяніна, які ішоў за плугам. Было ціха, ні ветрыку; сонца афарбавала поле і лес яркімі колерамі. Альтэнкірх і Франке стаялі, пазіраючы на селяніна, на толькі што ўзараныя барозны, на каня, што брыў, нізка апусціўшы галаву.

— Якраз, як у нас дома, — ціха прамовіў Франке.

Альтэнкірх маўкліва глядзеў на селяніна і думаў пра бацьку, пра сваё сапсаванае жыццё — ён мог бы цяпер ужо мець жонку, дзяцей... Але замест гэтага гойсае па нейкіх чужых лясах, пакрыўся з галавы да пят граззю, амаль зусім выбіўся з сіл, і ўсяму гэтаму не відаць канца-краю. «Было б хаця што выпіць, — падумаў ён. — Са шнапсам лягчэй цярпець».

Калі Альтэнкірх з Франке вярнуліся да сваіх, Вайтхазе сказаў, што ноччу ён сам пойдзе ў штаб групы Грэльхамера. Альтэнкірх адразу ж выклікаўся ісці з ім, але Вайтхазе напомніў яму, што падпалкоўнік Грэльхамер прызначыў яго начальнікам радыёгрупы, а камандзір не мае права без загаду пакідаць свой пост.

— Я афіцэр сувязі паміж вамі і Грэльхамерам, — сказаў Вайтхазе, — і прынясу вам яго распараджэнне. Папрашу, каб ён дазволіў вам адлучыцца на дзве ночы і дзень.

Альтэнкірх і сам цяпер зразумеў, чаму закарцела яму ісці з Вайтхазе: ён спадзяваўся, што з самалёту скінулі што-небудзь спіртное, і хацеў раздабыць сабе якую бутэльку.

— Паслухайце, Вайтхазе, — папрасіў ён. — Калі нам прыслалі каньяк ці што-небудзь такое, захапіце для мяне бутэльку, калі ласка. Хіба я не маю на гэта права?

— А-а, вось што вам захацелася! Добра, што-небудзь зробім, — паабяцаў Вайтхазе.

Ноччу Альтэнкірх спаў кепска, хоць усё яго цела аслабла ад стомы. «Які з мяне герой, — разважаў ён. — Раней я думаў, што магу вытрымаць немаведама што, але вось сілы мае канчаюцца. Колькі сутак ужо мардуюць мяне гэтыя лясы? Сем, восем? Ужо і не ведаю. Адно ведаю — яшчэ столькі я не вытрымаю. Недзе тут спіць Мартынаў, пракляты здраднік! У любое імгненне ён можа прыстрэліць мяне. Магчыма, за кожным кустом прытаіўся вораг, і ў любы момант на нас можа паляцець граната. Праклятая краіна — балоты, лясы! Я не баязлівец, але лепш ужо мець супраць сябе танкі і самалёты, чым гэтыя д'ябальскія лясы. Ціха, як на могілках. Хай бы ўжо зямля трэслася ад грукату бою. Але самае лепшае — шнапс.

Пад раніцу ён адчуў, што рукі і ногі яго калоцяцца. Адным махам ён ускочыў на ногі. Будэр, які нёс вахту, аж перапужаўся.

— Не, нічога, — шэптам супакоіў яго Альтэнкірх. — Проста не магу больш спаць. А вы?

— Мне спаць нельга, — таксама шэптам адказаў Будэр. — Я на варце.

— А мяне сон не бярэ. — Альтэнкірх азірнуўся навокал і пад нізка павіслымі галінамі елкі ўбачыў Мартынава і Франке, якія ляжалі, захутаўшыся ў плашч-палаткі і коўдры. Ён узненавідзеў іх за тое, што яны могуць вось гэтак спаць, і за тое, што яны не-



© PDF: Kamunikat.org 2023
© PDF: Kamunikat.org 2023

# ДОБРЫ ХЛОПЕЦ

Вы пытаеце пра Васю Глечыка? Калі ласка! Без запінкі скажу — добры хлопец! Я з ім сябрую даўно. Праўда, некаторыя яго папракаюць: п'е, маўляў. Ну, п'е. А каму якая справа, калі мы і вып'ем? Ды і хто б на Васіным месцы ўстаяў, хто б не запіў? Для гэтага трэба быць гранітнай глыбай, а не чалавекам з такім добрым сэрцам, як у Васі. З трэцяю жонкаю хлопец разышоўся. Чалавек — душа, а на жонак яму не пашанцавала. Другі ўсё жыццё стогне, валасы на сабе рве, што сышоўся з ведзьмай і ніяк адчапіцца не можа. А ад Васі трэцяя без аглядкі задала лататы. Ёсць праўда на свеце?

Сам Вася расказвае, як з першай было. Дзесьці ён там загуляў трошкі, прыйшоў дадому ў вясёлым настроі, а жонка, самі ведаеце, завяла: «Шляешся, сям'ю забыў...» І пайшла! Не спытала, ці еў, ці піў, а адразу сварыцца пачала. Ну, а Вася не з разгаворлівых, нават агрызнуцца не можа. А душа кіпіць. Вось ён, небарака, слухаў-слухаў, а потым адразу без слоў на рукапрыкладства адважыўся.

Не сварылася б — усё было б добра. Дык не, разбудзіла ў чалавеку звера. Знайшла зачэпку, абняславіла Глечыка і кінула.

Новая жонка таксама пяткамі бліснула. Зноў яму на жонку не пашанцавала. Прыйшоў ён да мяне, скардзіцца. А чым я дапамагу? Паспачуваў яму — толькі і ўсяго.

З трэцяй жонкаю Вася пражыў ладнавата. Але і дапякла сваркаю: маўляў, Вася грошы прапівае. Адкойчы ён не стрымаўся. Пабіў посуд, мэблю паламаў. Тут суседзі ўвязаліся, міліцыю выклікалі. Вярнуўся Глечык дамоў толькі на шаснаццаты дзень, стрыжаны. Якое ўжо тут жыццё?! Пайшоў Вася куды вочы глядзяць.

Добры хлопец Вася, а ў такое крутое становішча трапіў. Жыць трэба, а грошай няма. Ну, пазычыў у аднаго, у другога, у трэцяга. Дык пацярпіце, пачакайце, пакуль чалавек разжывецца, пакуль лішнія грошы будзе мець. Аддасць. Дык жа не. Напамінаюць пра даўгі, сэрца Васева трывожаць. На днях сустрэў мяне Бабенка і ні з таго, ні з сяго: «Ну і свіння твой Глечык! Пазычыў у мяне дзвесце злотых, а цяпер вочы адводзіць». Брыдка слухаць. Можна падумаць, што Бабенка за гэтыя грошы дачу сабе пабудуе або «Фіята» купіць. Ды ты радавацца павінен, што чалавеку дапамог у цяжкую мінуту!..

Менавіта такія вось адносіны да Васі на характар яго паўздзейнічалі. Пакуль цвярозы — добры хлопец! З ім і знайсці радасна і згубіць не шкада. А вып'е — на ражон лезе.

Не, вы як сабе хочаце, а мне шкада свайго сябра Глечыка, вельмі шкада.

*Уладзімір Філіновіч*

### У БАРАЦЬБЕ ЗА ЦІШЫНЮ



*— Гэта наш сусед. Ён намагаўся ўкрасці маю трубу.*

# НІЎКА



*І ў хуткасці свае адмоўныя бакі.*

## Галаваломка



Цыфравы лабірынт. Месца старту — правы ніжні вугал квадрата пад цыфрай 3, выхад — левы ніжні вугал квадрата пад цыфрай 1. Прайдзіце праз лабірынт такім чынам, каб сума пройдзеных квадратаў склала лік 45.

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*





### ХТО

— Вы новая сакратарка майго мужа?
— Так.
— Спадзяюся, вы не такая энергічная, як тая, што была перад вамі...
— А хто яна была?
— Я.

### ДОБРАЯ ПРАФЕСІЯ

Настаўнік запытаўся ў вучня:
— Скажы, Ваня, якая прафесія табе найбольш падабаецца?
— Мне найбольш падабаецца прафесія майго бацькі — ён пенсіянер.

## МІНІВЕРШЫ

### ПРЫЗНАННЕ

Я люблю цябе да смерці,
Дарагая мая жонка.
Ты ў мяне не толькі ў сэрцы,
Але нават і... ў пячонках.

*М. Вяршынін*

### ЧЫЯ ВІНА?

Дакаралі барана:
— Па дурасці збіў рогі!
Тут не мая віна:
Слуп не хацеў сысці з дарогі!

*П. Шыбут*

*Без слоў.*



*...Пачнуць яго дакараць, што не выканаў сваіх абяцанняў, — ён зараз жа дае новыя.*

*...Ён згодзен стаць на галаву вышэй, але не ведае, на чыю.*

## ГУМАР З ...

### УПАЛЯВАЎ

Да аднаго пана завітаў у госці сябар і заказаў на абед смажанага зайца. Пан загадаў парабку Івану ўпаляваць дзічыну. Дарагому госцю неўзабаве падалі да стала смажаніну.

Калі госць смачна пад'еў, выпіў і абсмактаў костачкі, гаспадар дома вырашыў пахвастацца стараннасцю парабка і спытаў Івана:

— Як табе ўдалося так хутка ўпаляваць зайца!

— Выйшаў, значыць, на вуліцу, — пачаў Іван, — калі, бачу, бяжыць пад плотам. Дык я як бабахнуў, ён і не гаўкнуў.



*Без слоў.*

### НЕ ПА-НАШАМУ...

Бабуля вырашыла купіць свайму ўнуку на дзень нараджэння транзістарны радыёпрыёмнік. Паказаў ёй прадаўшчык адзін, уключыў. Паслухала бабуля, павярцела яго ў руках, нешта не спадабалася. Прадаўшчык падаў другі. Паглядзела, паслухала яна і другі, потым паківала незадаволена галавою ды й кажа:
— Дайце я лепш вазьму першы, бо гэты нешта не панашаму балакае...

### РОЎНА

— А парашок, які я вам прапісаў, прымайце роўна за пятнаццаць мінут да пачатку галаўной болі.

## МІНІБАЙКІ

### ШТО ТАКОЕ «НЕ ВЯЗЕ»

Сустрэў Воўк у лесе каня, у сані запрэжанага, і думае: «Мне б толькі на яго сані ўзабрацца, а там і да глоткі недалёка».

— Слухай, Конь, пусці мяне ў твае сані, ужо ж вельмі люблю катацца...

І сеў у сані. А там паляўнічы... Піф-паф, і мараль:

Любіш катацца — не ў свае сані не садзіся.

*М. Азаў, У. Ціхвінскі*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Пятра Ваўранюка з Козлік Гайнаўскага павету змяшчаем папулярную ў час вайны савецкую песню:

### В ЗЕМЛЯНКЕ

Бьётся в тесной печурке огонь,
На поленьях смола, как слеза.
И поет мне в землянке гармонь
Про улыбку твою и глаза.

Про тебя мне шептали кусты
В белоснежных полях под Москвой.
Я хочу, чтобы слышала ты,
Как тоскует мой голос живой.

Ты сейчас далеко-далеко,
Между нами снега и снега.
До тебя мне дойти нелегко,
А до смерти — четыре шага.

Пой, гармоника, вьюге назло,
Заплутавшее счастье зови.
Мне в холодной землянке тепло
От моей негасимой любви.

### ТАТКА ПАЕХАЎ

Татка паехаў у далёкае падарожжа, і Сярожа разам з мамай пайшлі праводзіць яго. Да гэтага часу Сярожа яшчэ ніколі не быў на вакзале.

— Мама, а што гэта за будыначкі, у якіх так многа вокан? — запытаў Сярожа.

— Гэта вагоны, сынку, — адказала мама, — а іх цягне вялікая і магутная машына — цеплавоз.

— Цеплавоз, — паўтарыў Сярожа. — Ён цяпло возіць?

Развітаўся Сярожа з таткам. Цягнік рушыў. Татка рукою махаў з вагона Сярожы і маме, аж пакуль яго не стала відаць.

— Мама, мамачка, — закрычаў Сярожа. — Ты казала, што гэта цеплавоз, а гэта не цеплавоз, а таткавоз. Бач, паеў нашага татка.

*Ю. Гекельман*

## КУРЁЗЫ

### САПЕРНІЦЫ ПІЗАНСКАЙ ВЕЖЫ

Італьянскі горад Піза праславіўся сваёй падаючай вежай. Аднак ёсць у Еўропе і іншыя гарады, якія ганарацца сваімі «падаючымі вежамі». Так, на радзіме Каперніка ў горадзе Торуні гарадская вежа, што пабудавана ў пачатку XIV стагоддзя, з-за апоўзня значна нахілілася. У горадзе Замбковіцы ў Сілезіі знаходзіцца другая польская «падаючая вежа» з яшчэ большым вуглом нахілу. Ёй ужо 600 гадоў. Вышыня яе — 34 метры, акружнасць — 40 метраў, таўшчыня сцен — 2,5 метра. Вежа нахілілася яшчэ ў 1598 годзе.

### БОЛЬШ ВЫНОСЛІВЫ, ЧЫМ ЦЯГАЧ

Першая ў свеце калекцыя, якая адлюстроўвае гісторыю аўтамабілебудавання, належыць французскай фірме Рэно. Што датычыць другой па велічыні калекцыі, то думкі спецыялістаў разыходзяцца, аднак большасць схільна аддаць перавагу збору гандляра аўтамашынамі бельгійца Гіслана Махі. Ён захоўвае шэсцьдзесят аўтамабіляў, што створаны з часоў нараджэння гэтага віду транспарту і да пачатку другой сусветнай вайны.

Уладальнік гэтага цікавага музея з поўнай перакананасцю заяўляе, што старадаўнія машыны з'яўляюцца значна больш трывалымі, чым сучасныя. Свае словы Махі падмацоўвае паказам «Дарака» выпуску 1913 года. Гэту машыну ён знайшоў у 50-х гадах у Пірынеях і з дапамогай амерыканскага цягача вырашыў адбуксіраваць у Бельгію. Аднак у дарозе цягач зламаўся і сам закончыў шлях на прычэпе ў «дзядулі» сучасных аўтамабіляў.




*Спытайце ў падлюгі, што такое подласць — палезе за слоўнікам.*